# КАНТРОЛЬ

БЮЛЕТЭНЬ ТАВАРЫСТВА МАЛАДЫХ ЛІТАРАТАРАЎ "ТУТЭЙШЫЯ" /2/ 1.89

## К Р О Н І К А

Кажуць, адбыўся Пленум СПБ па маладых. Кажуць, пакаленьне Галубовіча-Арлова Г.Далідовіч назваў пакаленьнем Мятліцкага-Рубанава. Кажуць, што Пленум ня меў ані задумы, ані мэты, ані плёну. Ну, хіба што арганізатары паставілі птушку. Галку. Ці -- крыжык. На птушцы. Чаму? Бо прывучаць пачаткоўцаў да ўсялякіх"абоймаў", шукаць ідэйна-тэматычных вартасьцяў ды хібаў у кволых экзерсісах літаратурнае зьмены, ставіць задачы -- тое, чым займаецца СПБ,-- гэта адміністратарства, скіраванае на дэградацыю маладых. Дэгенератыўная зьмена можа задаволіць толькі дэгенератаў. І наадварот. Абарона маладых ад рэспубліканскай ідэалягічнай службы, стварэньне ім умоваў для творчасьці, спрыяньне іх унутранай свабодзе, неартадаксальнаму мысьленьню, самаадукацыі і новым, нетыповым творам -- вось галоўныя праблемы для гэткага Пленума. Але дзе тыя мэтры, у якіх рэальна вучацца маладыя, каму яны хоць бы давяраюць?

x
x x

Міліцыя забараніла "Талацэ" і "Тутэйшым" правесьці вечарыну, прысьвечаную У.Караткевічу, у "Акварыуме", што на Камароўцы. Міліцыянт-афіцэр спаслаўся на адсутнасьць пажарнай бясьпекі.

x
x x

Рэдакцыі "Полымя", "Маладосьці" і "Чырвонай зьмены" адмовіліся друкаваць раман Дж.Оруэла "1984" у перакладзе С.Шупы. Як вядома, сёлета гэты раман надрукуе "Новый Мир". Куды нам, сарамяжлівым беларусам, лезьці наперад з рызыкоўнымі, прыярытэтнымі! Цікава, што вартага оруэлаўскага рамана прапануюць нам згаданыя рэдакцыі?

x
x x

Платная вечарына, наладжаная "Талакою" ў сярэдзіне сьнежня, была выратаваная на гэты раз выключна "Тутэйшымі". Сярод дэкляматараў, што спрэс заікаліся і забываліся тэксты вылучаўся хіба толькі А.Сьвістуновіч.

x
x x

У кулуарах ТМЛ абмяркоўваецца ідэя ўзнаўленьня Сталінскай прэміі -- самаму рэакцыйнаму чалавеку года на Беларусі. Выказваецца сумненьне: ці варта ўстанаўліваць прэмію для адзінага бясспрэчнага лаўрэата Савелія Паўлава.

x
x x

У канцы сьнежня прайшла вечарына "Тутэйшых" на філфаку БДУ. Слабая арганізацыя яе прывяла да сумнай колькаснай раўнавагі тых хто выступаў і тых хто слухаў.

x
x x

У бібліятэчцы "Маладосьці" выйшла чарговая кніжка Паўла Савоські "Дзёньнік халасьцяка", рукапіс якой у свой час атрымаў адмоўную рэцэнзію ляўрэата прэміі "Тутэйшых" Анатоля Сідарэвіча ў выдавецтве "Мастацкая літаратура".

x
x x

"Тутэйшыя" з жалем пачулі пра трагічную сьмерць паэткі Яўгеніі Янішчыц. Хто і што тут прычынай? Мусіць ізноў беларускія пісьменьнікі гатовыя задаволіцца кожны асабістым смуткам, як гэта вядзецца ад сьмерці Купалы, як гэта было з Семашкевічам. Мусіць ізноў нікога ўжо не хвалюе: чаму загінуў талент?

x
x x

Чарговы сэмінар маладых прайшоў у Ісачы і стаўся на дзіва незаўважаны ў друку. Гэтая таямнічасьць -- ці не ад самахарактарыстыкі сэмінарыстых, якія выпусьцілі насьценгазэту пад назваю "Масонская лажа". Падаем кроніку сэмінару з гэтай газэты:

5 сьнежня,панядзелак: Прынята пастанова агульнага сходу творчага пагалоўя сэмінара аб утварэньні друкаванага органа "Масонская лажа". Вядовы беларускі драматург Мігай пачаў пісаць пьесу "Мігучыя сьветлафоры або хто ўкраў ліхтарыкі", для дзетпрыёмніка. "Это полтинник",-- сказаў вядомы паэт П.Кошаль.
6 сьнежня, аўторак: Сярод удзельнікаў сэмінару пачалася эпідэмія вірусной хваробы "Альба Рутэнія". "Сельская газета" зьмясьціла параду Б.Спрынчана маладым паэтам: "Эти стихи нужно основательно прополоть".-- "Это полтинник",-- сказаў вядомы паэт П.Кошаль.
7 сьнежня,серада: Анатоль Сыс у творчым шале згубіў кашулю. Сяржук Сыс закупіў у краме 10 кг.паперы. "Это полтинник"-- сказаў вядомы паэт П.Кошаль.
8 сьнежня, чацьвер: Знойдзены Чаропкаў камень -- археалягічны помнік XII ст. А.іС.Сысы 4 гадзіны спрачаліся, хто зь іх СЫС. Адбыўся Пленум СП. На ім было сказана, што М.Мятліцкага даўно адкрылі і час закрываць. "Это полтинник"-- сказаў вядомы паэт П.Кошаль.
9 сьнежня,пятніца: Ніхто нічога не памятае... "Это полтинник",-- сказаў вядомы паэт П.Кошаль.
10 сьнежня,субота: Адбылася экскурсія на мясьціны нараджэньня вядомага беларускага паэта В.Шніпа. Адкрыўся рахунак збору сродкаў на рэстаўрацыю дома, дзе ён нарадзіўся. У раённым Доме культуры адбыўся вечар яго паэзіі. Усім удзельнікам падаравалі барэльефы Ф.Э.Дзяржынскага, ягонага земляка. "Это полтинник",-- сказаў вядомы паэт П.Кошаль.
11 сьнежня, нядзеля: А.Сысу знайшлі кашулю і выправілі ўпрочкі. Вядомы беларускі драматург Мігай напісаў пьесу для дзетпрыёмніка "Мігучы сьветлафор, або хто ўкраў ліхтарыкі". Ю.Пацюпа піў-піў каву, прапіў зь ёю палову інтэлекта і вырашыў скончыць жыцьцё самаглупствам. "Это полтинник",--падвёў агульны вынік вядомы паэт П.Кошаль.

ТВОРЫ З ІСЛАЧЫ:

Б а с ё: На стылай зямельцы
Чаропка самотны сядзеў
Восеньскі вечар... /з японскае ўзяў і пераклаў І.Бабкоў/

Пачатак аповесьці У.Калкоўскага "Надзейны спосаб":

Думка, што яна можа застацца ў дзеўках, трывожыла Тамару -- мабыць, яшчэ з тае пары, калі яна выпадкова пачула ў размове:

"Што ж, яна так і не пайшла замуж?..Чаму?" "Чаму, чаму. Ня ўзяў ніхто. Чаго ж яшчэ не ідуць?" Тады ёй упершыню стала страшна, што калі-небудзь і пра яе могуць так сказаць. Адразу здалося, што гэта вельмі цяжка і ганарова -- дабіцца, каб цябе "узялі"...

У НАШАЙ ШУФЛЯДЗЕ:

ЗЬНІЧ:

ТУТЭЙШЫМ
/Прапанова/.

Чаму ня можа быць "тутэйшым"
за 36 гадоў старэйшы?..
Хай ён стары ці маладзейшы --
абы пісаў ён прозу й вершы
ня горш ад Танка ці Камейшы[x]...!

А можа зробім -- пры "Тутэйшых"--
мы філіял -- для ўсіх старэйшых?..
Для Танка, Ніла, для Камейшы...--
І будзе ўвесь Саюз --
т у т э й ш ы!..

[x]Заклік для працаўнікоў
"крытычнага цэху":
глыбей аналізуйце ня
толькі "вершы ў прозе",
але і "прозу ў вершах". чэрвень-87.

А.Н.

САМОТА /сонэт/

Мне рэжа слых мана прамоў traskoтных,
Мне сьлепіць вока яркасьць кумача --
Даўно мне ўсё абрыдла апрача
Маўклівай няпрытомнасьці самоты.

І ўсё ж калі б у цішыні дрымотнай
Турыны рог прызыўна загучаў
І на лязе ўзьнятага мяча
Запалымнелі водсьветы паходняў --

Я ўсе сумненьні адгарнуў бы разам
І стаў пад белы сьцяг з чырвоным пасам:
Пад бел-чырвона-белы вольны сьцяг...

Чырвоны пас на белым тле Радзімы,
Ты клічаш нас за волі міг адзіны
Узьняцца і загінуць без разваг!

x x x x x x x x x x x

Вядома, кожны мае свой погляд на рэчы, а кожны погляд грунтуецца на інфармацыі. Напрыклад, погляд "Беларускага голасу" на "Тутэйшых вынікае з інфармацый "ЛіМа", "Советской Белоруссии", "Голасу Радзімы". Яны -- ініцыятары і прычына таго, што ў Таронце пра нас думаюць так:

"Беларускі голас", Таронта,нум.342,сакавік 1988 г.:

"Пагоня"загучала ў Менску. "ЛіМ" падае аб першым сходзе нефармальнай групы маладых беларускіх пісьменьнікаў, які адбыўся 10 сьнежня л.г. ... Аўтару зацемкі не падабалася, што кіраўнік вечару -- Анатоль Сыс ужываў архаічных словаў,-- гэта значыць гаварыў праўдзівай беларускай мовай, а не накіненым Масквой, некім валапюком, складзе-

ным на адну трэць з русіцызмаў, ці наагул расейскіх словаў. Між іншым, "ЛіМ" падае, што сабраныя адсьпявалі Беларускую патрыятычную песьню на словы Максіма Багдановіча: "Пагоня", якая да гэтага забаронена ў БССР.

26 сьнежня л.г. адбыўся зьезд незарэгістраваных ахвіцыяльна /"нефармалы"/ групаў пад Менскам -- "Вальны Сойм", як ён быў названы ўдзельнікамі, выкарыстаўшы стары Беларускі назоў з часоў Княэьства Літоўскага. Паза шырэй знанай групай маладых пісьменьнікаў у Менску: "Тутэйшыя", існуюць тамжа: "Талака", "Нашчадкі", "Няміга", у Віцебску: "Узгор'е", у Горадні: "Паходня", у Берасьці: "Край", у Воршы: "Повязь", у Полацку: "Маладзік" і шмат інш.

"Советская Белоруссия" атакуе "Дзяды". Як падавалі, у Менску на І-е лістапада /87г.-К./ Беларуская моладзь, ды маладыя пісьменьнікі зарганізавалі ў Гарадзкім парку адзначаньне Беларускага стараветнага сьвята -- памінкі па продках "Дзяды". На сьвяце першы раз публічна ўспомнілі аб тых шмат тысячах нявінна замардаваных пры сталіншчыне і дамагаліся пакараньня усіх тых мардэрцаў, якія яшчэ засталіся жывыя. "С.Б." пяром нейкага Майсені заатакавала ўдзельнікаў "Дзядоў", што яны інтрыганы, "самазванцы" з нацыяналістычнымі ідэямі... А галоўнае яму не падабаецца ўжытае на памінковых "Дзядах" слова "генацыд" для акрэсьленьня сталінскіх масавых мардэрстваў на Беларусі, бо маўляў іх больш было на Украіне і ў Росеі... У "ЛіМ" зьявіўся адказ на гэтую атаку інжынера В.Голуба з Калускай вобласьці, які слушна кажа: што Беларуская нацыянальная інтэлігенцыя не была яшчэ такой шматлікай, як у тых краях і яе зьнішчэньне Сталіным трэба акрэсьліць "гэнацыдам". Голуб выкрывае, што незадаваленьне з сьвяткаваньня "Дзядоў" выявілі і менскія Гарадзкія ўлады, бо гэта адбылося бяз іхнага дазволу і рэжысэры. З артыкулу можна даведацца, што бедныя падсавецкія Беларусы ўжо і не мараць аб прывярненьні беларускай мовы як дзяржаўнай. Яны змагаюцца толькі аб справядлівае "двумоўе", гэта значыць за раўнапраўнасьць Беларускае мовы побач Расейскай, але і гэтага ня могуць дабіцца!

У "Голасе Радзімы" з Менску зьмешчаны артыкул Ніны Буракоўскай " Па народным сцэнарыі", з якога магчыма пазнаёміцца з мэтадамі нішчэньня праўдзівых Беларускіх народных традыцыйных сьвяткаваньняў праз замену іх або Расейскімі традыцыйнымі сьвяткаваньнямі, або выдуманымі камуністычна ўрадавымі, падтасаванымі пад беларускія. ... Не дапушчаецца да сьвяткаваньня публічна і восеньскае сьвята "Дзяды". Спроба адсьвяткаваць яго публічна ў Менску ў мінулым годзе падняло зьвягу проціў арганізатараў у савецкай прэсе.

"ПРЫКАРЫТНІКІ" Так назвала літаратурная моладзь банду літаратурных дыназаўраў акапаўшыхся ў Саюзе Пісьменьнікаў БССР, якія памагалі калянізатарам душыць Беларускую культуру і нішчыць Беларускую мову, ды галасілі ў сваіх творах нібы "розквіт" гэтай забіванай культуры, ды вясёлае жыцьцё паднявоненага народу пад упpавай Крамлёўскіх стаўленікаў. Міхаіл Мінскі /пражывае ў СССР/ апавядае аб тым, як жыў адзін з гэтых верных слугаў панявольніка -- "Беларускі пісьменьнік" Пятрусь Броўка: "Дом быў стараветны, з высачэзнымі столямі, з мармуровымі сходамі... На першым паверсе быў Дзіцячы Садок, другі паверх займаў вялікі паэт Пятрусь Броўка, на трэцім паверсе жыў акадэмік Мацэпура, а апошні займаў архітэктар і прафесар Чантурыя... Кожнаму прыпадала па паверху, пакояў гэтак па 10-12... Стукаю да Пятруся Броўкі. Адчыніла мне пакаёўка з чэпчыкам на валасах і павяла да памяшканьня. На ўсім шляху тоўстыя кілімы, гэткія хіба да рэвалюцыі тут ляжалі. Прывяла да вітальнага пакою і пасадзіла ў крэсла... У Дзіцячым Садку скаржыліся: яны ня могуць пра-

водзіць музычную гадзіну, таму што паэт Броўка думае сваю вялікую думу і не дазваляе пеяць і граць на піяніне, таму што музыка адганяе ягоную музу... Броўка меў яшчэ і некалькі дачаў, аўтар апісвае ягоныя хаданьні, каб адстояць свае дачы, калі адную ў яго хацелі забраць. Так выглядалі і выглядаюць гэтыя гэтак званыя "народныя паэты", верныя паслугачы Маскоўскага рэжыму. За верную працу каланізатар умее шчодра плаціць!

УЖО І ГЭТАЕ "НАЦЫЯНАЛІЗМ"! "Советская Белоруссия" у артыкуле атакуючым вядомую маніфэстацыю Беларускіх патрыётаў, зарганізаваўшых без дазволу Гарсавета, сьвяткаваньне ў парку ля помніка Купалы у Менску сьвята памінак продкаў: Дзяды, выявіла незадавальненьне аб'яднаньнем маладых пісьменьнікаў, ці хутчэй іх назовам "Тутэйшыя". Паводле "Советской Белоруссии" назоў гэты "вельмі ўжо патыхае некім "местничеством", "адкасаванасьцю". Адным словам Беларусы на сваёй Бацькаўшчыне не маюць права называць сябе што яны: тутэйшыя, а не прышлыя на чужую зямлю прыблуды, на ўзор тых з "Советской Белоруссии", якія над тутэйшымі пануюць.

x

x x

## ЗНОЎ ПРА "ДЗЯДЫ"

Гэты артыкул -- кансультацыя спецыялістых, быў напісаны да 30 кастрычніка, беларускай "крывавай нядзелі", і, бадай, шмат што мог зьмяніць у сытуацыі, ды аказаўся па-за межамі публічнасьці на Беларусі і "выпаў" з паласы адной рэспубліканскай газэты. З удзячнасьцю аўтарам-юрыстам робім іхні матэрыял набыткам чытачоў:

"Свабода сходаў, мітынгаў, вулічных шэсьцяў і дэманстрацый адносіцца да суб'ектыўных канстытуцыйных правоў савецкіх грамадзян і зьяўляецца адным з істотных элемэнтаў прававога статуса асобы -- грамадзяніна Савецкай дзяржавы, паўнапраўнага суб'екта палітычных адносінаў. Таму рэалізацыя гэтага права /як і іншых канстытуцыйных правоў/ павінна быць забясьпечаная безумоўна і безагаворачна. Есьць толькі адная прававая падстава для забароны сходаў, мітынгаў, вулічных шэсьцяў і дэманстрацый -- іх правядзеньне не адпавядае Канстытуцыі СССР, Канстытуцыі БССР, савецкім законам. Толькі супрацьзаконны характар мэтаў мітынгу можа быць законнай падставай для адмовы ў яго арганізацыі і правядзеньні,але далёка не адміністрацыйнае меркаваньне органаў дзяржаўнага кіраваньня. Бо ў першым выпадку ў аснове рашэньня ляжыць прынцып адпаведнасьці закону,а ў другім -- дастаткова зыходзіць з прынцыпу мэтазгоднасьці, без абавязковага суаднясеньня з прынцыпам законнасьці. Іншымі словамі, толькі даказаўшы супрацьпраўнасьць мэтаў і задачаў мітынгу, можна мець законныя падставы для адмовы ў праве каму б то ні было яго арганізоўваць і правесьці. Спасылка на немэтазгоднасьць, не падмацаваная нормаю права, не можа быць прызнаная дастатковай, а значыць, і законнай падставаю для адмовы ў магчымасьці рэалізаваць канстытуцыйныя правы. Гэтае палажэньне зьяўляецца аксыёматычным для функцыянаваньня сацыялістычнай прававой дзяржавы,бо галоўнае,што складае яго істотную характарыстыку,-- забесьпячэньне рэальнага вяршынства закона. Мэнавіта закона, а не адміністрацыйнага меркаваньня. Як адзначалася на XIX партканфэрэнцыі, "ні адзін дзяржаўны орган, службовая асоба, калектыў, партыйная або грамадзкая арганізацыя не вызваляюцца ад абавязку падпарадкоўвацца закону. Як грамадзяне нясуць адказнасьць перад сваёй агульнанароднай дзяржавай, так і дзяржаўная ўлада нясе адказнасьць перад грамадзянамі. Іх правы павінны быць надзейна абаронены ад любога дэспатызму ўлады і яе прадстаўнікоў". Вядома, грамадзяне, рэалізуючы сваё канстытуцыйнае права на правядзеньне мітынгу, павінны строга захоўваць савецкія законы. Заканадаўствам устаноўленыя вельмі жорсткія меры адміністрацыйнай і крымінальнай адказнасьці за парушэньне парадку арганізацыі і правядзеньня сходаў, і адпаведныя кампетэнтныя органы маюць усе магчымасьці для прыцягненьня

парушальнікаў да адказнасьці. А вось у пляне абароны грамадзянаў ад неабгрунтаваных адмоваў выканкомаў праблемаў вельмі шмат. Не прадугледжаная адказнасьць выканкаму за неабгрунтаваную адмову ў праве на правядзеньне сходу. На думку абсалютнай большасьці вучоных-юрыстаў, паўнамоцтвы выканкамаў /або іншых органаў дзяржаўнага кіраваньня/ пры вырашэньні пытаньняў арганізацыі і правядзеньня сходаў павінны насіць не дазваляльны, а рэгістрацыйны характар. Аднак Прэзыдыум Вярх.Савета СССР ва Указе "Ад парадку ..." ад 28.УІ.88 г. замацаваў дазваляльны характар паўнамоцтваў выканкамаў, што выклікала вельмі шырокую грамадзкую дыскусію. Зрэшты, гэта самастойная і вельмі складаная праблема. У дадзеным канкрэтным выпадку нас перш за ўсё цікавіць пытаньне, ці адпавядаюць рашэньні выканкамаў дзеючаму Указу. Згодна з арт.3 Указа, Мінскі гарвыканкам у выпадку неабходнасьці меў права прапанаваць тым, хто зьвярнуўся з заявай, іншыя час і месца правядзеньня мерапрыемства, на што, дарэчы, былі згодныя заяўнікі. Аднак пытаньне так пастаўлена не было. Арт.6 Указу замацоўвае за выканкамамі права забараніць сход, мітынг, і г.д., калі мэта іх правядзеньня супярэчыць Канстытуцыі СССР,БССР, альбо пагражае грамадзкаму парадку і бясьпецы грамадзянаў. Агульныя прававыя падставы забароны мітынгу разгледжаныя вышэй. Што ж датычыць гарантаваньня грамадзкага парадку і бясьпекі грамадзянаў,то, як бачна з атрыманых рашэньняў выканкамаў, яны не лічылі, што правядзеньне мітынгу стварыла б нейкія там праблемы. Арганізатары мітынгу абавязаліся выставіць пэўных членаў ДНД з ліку асоб, маючых адпаведныя пасьведчаньні. Яны таксама прасілі забясьпечыць грам.парадак сіламі АУС. Акрамя таго, захаваньне грамадзкага парадку і бясьпекі грамадзянаў аднесенае да кампетэнцыі саміх выканкамаў. Трэба ўлічваць і тое, што згодна з арт.7 Указа, мітынг можа быць у любы час спынены па патрабаваньню прадстаўнікоў органаў улады пры парушэньні ўстаноўленага парадку яго правядзеньня. Такім чынам, якіх-небудзь аб'ектыўных прававых падставаў для адмовы, на наш погляд, у выканкамаў не было. Маем права і на пастаноўку такога пытаньня -- наколькі рашэньні выканкома адпавядаюць патрабаваньням,што прад'яўляюцца да актаў дзярж.кіраваньня. Заканадаўства сцьвярджае,што ўсе правапрымяняльныя акты павінны выдавацца ў строгай адпаведнасьці з законам, мець спасылку на канкрэтную прававую норму /г.зн. на канкрэтны артыкул нарматыўнага акта або нават на частку артыкула/. Аднак ні ў рашэньні Мінгарвыканкаму, ні Першамайскага райвыканкаму, з якімі нас пазнаёмілі заяўнікі мітынгу, ніводнай спасылкі на заканадаўства няма. У рашэньні Цэнтральнага райвыканкаму маецца спасылка на Указ без якой-небудзь канкрэтызацыі. Аднак Указ утрымлівае 10 артыкулаў, і даведацца з рашэньня, якой нормаю кіраваўся выканкам, немагчыма. З прававога пункту гледжаньня гэтыя парушэньні, дапушчаныя пры вынясеньні рашэньня, зьяўляюцца вельмі грубымі. /Як можна, скажам, расцаніць вырак суда, спасланы не на канкрэтныя артыкулы Крымінальнага кодэксу, а на кодэкс увогуле? Ці вырок суда наогул без усялякай спасылкі на закон? Вядома,як супрацьпраўны, незаконны. І гэта ў той час, калі гаворка ідзе пра стварэньне сацыялістычнай прававой дзяржавы. Несумненна, пры вырашэньні пытаньняў рэалізацыі палітычных правоў грамадзянаў заўсёды ўзьнікае і праблема суаднясеньня палітычнай і прававой ацэнкі тых або іншых мерапрыемстваў. Адказ тут павінен быць адназначным -- слушная, адэкватная прававая ацэнка ёсьць адначасова і слушная палітычная ацэнка. Такі аснаватворны прынцып прававой дзяржавы. Прымаючы Указ "Аб парадку...", заканадаўца меў на ўвазе перш за ўсё вызначыць парадак рэалізацыі аднаго з важнейшых канстытуцыйных палітычных правоў савецкіх грамадзян, а не стварыць механізм забароны рэалізацыі гэтага права. Рэальная свабода сходаў і г.д. -- як форма прамой дэмакратыі -- акрамя таго, што зьяўляецца эфектыўным спосабам выяўленьня і вырашэньня сацыяльных праблемаў, якія ёсьць у нашым грамадзтве,.дазваляе кожнаму грамадзяніну быць не бязтварым шрубкам дзярж. машыны, а рэальным удзельнікам палітычнага працэсу. З гэтага, а не са стэрэатыпа, "хоць бы чаго не выйшла" трэба, на наш погляд, выходзіць выканкамам, вырашаючы пытаньне пра дазвол на правядзеньне мітынгаў, сходаў, вуліцхных шэсьцяў і дэманстрацый."

Кандыдаты юрыдычных навук: В.Гараднюк, В.Дубавіцкі, А.Цікавенка, В.Лубоўскі.